**Дзмітрый Шчэрбік**
(Полацк)

## Палітычныя ідэі ў праекце статута Сярэдняй Літвы Станіслава Мацкевіча

Пасля рэвалюцыі 1905 г. у Расійскай імперыі кансерватыўная шляхта з зямель былога Вялікага Княства Літоўскага актыўна распачала палітычную дзейнасць. Праз сваіх дэпутатаў у Дзяржаўнай Думе і Дзяржаўным Савеце, выкарыстоўваючы свой гаспадарчы досвед, эканамічную значнасць яны выступалі за раўнапраўе з унутранымі губернямі, каб Літва (у гістарычным сэнсе — аўтар) атрымала «такія ж правы палітычныя і адміністратыўныя, поўны аб’ем грамадзянскіх правоў, каб польская мова для тых, хто хацеў бы яе ўжываць у штодзённым жыцці, у асабістых справах і ў літаратуры, была, як якая іншая мясцовая ці замежная мова (...)»[1]. У надрукаванай у «Літоўскім кур’еры» Асноўнай праграме Кола пасольскага Літвы і Русі адзначалася, што «Канстытуцыя (якая спадзяваліся будзе прынятая ў Расіі) павінна будзе поўнасцю забяспечваць правы нацыянальных меншасцяў, прапаноўвалася шырока зразумелая дэцэнтралізацыя дзяржавы, як шлях да аўтаноміі паасобных частак краю, але якая б не парушала адзінства дзяржавы, ужыванне мясцовых моваў на роўні з дзяржаўнай мовай у адміністрацыях, судах, школе, грамадскіх інстытутах, усеагульнага і бясплатнага навучання на прынцыпе раўнапраўя мясцовых моваў»[2].

Першая сусветная вайна, Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі, аднаўленне незалежнасці Польшы, Рыжская дамова 1921 г. і падзел зямель былога ВКЛ паміж Польшчай і Савецкай Расіяй моцна змянілі палітычнае становішча краёвай шляхты. Аляксандр Мейштовіч, адзін з лідараў краёвай шляхты, у прыватнай перапісцы адзначаў: «(...) мушу са смуткам прызнаць, што крэсавая супольнасць землеўласнікаў моцна аслабла і слабне надалей, бо згубіла адвечны прыток сілаў з Міншчыны, Ковеншчыны і Поўдня, ды самі падупалі на здароўе і набытак»[3]. З палітычных рэпрэзентантаў краю яны ператварыліся ў малодшых пар-

[1] D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904-1939*, Gdańsk 1999, s. 15.

[2] *Program Zasadniczy Koła Poselskiego Litwy i Rusi*, „Kurier Litewski”, 13/26.VI.1906, nr 130, s. 1.

[3] D. Szpoper, *Polskie środowiska zachowawcze byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec podziału jego terytorium po I wojnie światowej*, [w:] *Wyzwolenie czy okupacja? Stosunek społeczności zamieszkujących pogranicze polsko-litewsko-białoruskie do zmieniających się w XX wieku systemów państwowych*, Białystok, 2006, s. 50.

тнёраў Юзэфа Пілсудскага, з якім іх аб'ядноўвала падабенства поглядаў на ўсходнюю палітыку, непрыняцце польскага этнічнага нацыяналізму Рамана Дмоўскага і пашана да моцнай улады. Так, Станіслаў Мацкевіч, адзін з лідараў віленскіх кансерватараў, якія аб'ядналіся вакол газеты «Слова», адзначаў: «Як прыхільнікі моцнай улады лічым, што ўтрымаць уладу моцнай у Польшчы можа толькі маршал Пілсудскі, толькі ён да гэтага здольны»[4].

У пытанні лёсаў народаў Усходняй Еўропы віленскія кансерватары вылучалі «вялікадзяржаўную» ці імперыялістычную праграму як супрацьвагу праграмы нацыяналістычнай. Імперыялізм быў фактарам, які павінен быў вызначаць свядомасць кожнага грамадзяніна дзяржавы ў накірунку ўспрымання ідэяў, што Польшча павінна быць творам магутным, спраўным і дынамічным, што павінна як мінімум узмацніць уплыў на развіццё гісторыі сумежных дзяржаў[5]. Ненацыяналістычны імперыялізм адпавядае польскім традыцыям, ён прывязаны не да мовы і культуры, а да «мясцовасці, роднай зямлі, тэрыторыі»[6].

Лёс народа залежыць ад лёсу яго дзяржавы. Веліч народа — ад моцы дзяржавы. Моц дзяржавы праяўляецца ў экспансіі народа. Чым мацнейшую дзяржаву стварае народ, тым вышэйшая яго пазіцыя на міжнароднай арэне і тым лягчэй яму бараніцца ад прэтэнзіяў ворагаў[7].

Паводле Адольфа Бохеньскага, мэтай польскага імперыялізму павінна быць моцная дзяржава, а адным з сродкаў яе дасягнення «ліквідацыя Савецкай Расіі праз выкарыстанне для гэтай мэты існуючых там нацыянальных рухаў». Вынікам рэалізацыі імперыялістычнай праграмы будзе «(...) магутная ягелонская імперыя ад Адэсы і Харкава да Клайпеды і Коўна». «Абапіраючыся на традыцыях Ягелонаў і найлепшыя прыклады гісторыі, мы жадаем у згодзе жыць разам з акраіннымі народамі. Мы хочам забяспечыць ім нацыянальнае аб'яднанне і незалежнасць. Каб саюз Польшчы з крэсавымі народамі быў карысным для абодвух бакоў, ён павінен быць такім, як быў калісьці саюз польска-літоўскі, што абапіраўся на роўнасць народаў»[8].

У кастрычніку 1919 г., разумеючы пагрозу з боку польскіх нацыяналістаў, прадстаўнікі краёвых землеўласнікаў, у тым ліку Іпаліт Корвін-Мілеўскі, А. Мейштовіч, Станіслаў Ванькович і інш., распрацавалі і па-

[4] D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa...,* s. 190.

[5] Там жа, с. 191.

[6] Там жа, с.192.

[7] A. Bocheński, *Imperializm nacjonalistyczny a imperializm państwowy*, [w:] *Polskie tradycje intelektualne. Strona o myśli politycznej* [Электроны рэсурс]. — 2011. — Рэжым доступу: http://www.polskietradycje.pl/article.php?artykul=147. — Дата доступу: 19.01.2011.

[8] Там жа.

далі Ю. Пілсудскаму Мемарыял па пытанню ўсходніх межаў аднаўляючайся Польшчы. У Мемарыяле яны прапаноўвалі адступіцца ад межаў 1772 г. і засяродзіцца на землях, дзе польскі элемент моцны і шматлікі. Так, напрыклад, яны прапаноўвалі далучыць Інфлянты польскія, або Дрысенскі, Дынабургскі, Рэжыцкі, Люцынскі паветы, а таксама Лепельскі, Полацкі, Віцебскі і Себежскі паветы, Літву Ковенскую, заходнюю частку былой Магілёўскай губерні, цэлую Мінскую губерню да спалучэння Прыпяці з Дняпром і інш. Пры такіх памерах, яны лічылі, лепш не далучаць гэтыя землі да адзінай дзяржавы, але на пэўны час аднавіць даўнюю Унію, моцна звязаную ў міжнародным сэнсе, але свабодную ўнутры, асабліва ў адміністрацыйных і эканамічных справах[9].

Пасля правалу федэрацыйнай праграмы Ю. Пілсудскага ў пачатку 20-х гадоў XX ст., якой спачувала шляхта былога ВКЛ, калі нават у Сярэдняй Літве дзве трэці насельніцтва, змучанага «пасля сямі гадоў бур і ваенных навальніц, прагаласавалі за стабільнасць» і супраць прыхільнікаў федэрацыі[10], мясцовыя кансерватары вымушаны былі выпрацаваць адносіны да нацыянальных меншасцяў Другой Рэчы Паспалітай. Праект стварэння Польскай імперыі ў форме федэрацыі быў адкладзены на будучыню, калі Ковенская Літва «прыйдзе да нас шукаць абароны сваёй незалежнасці»[11], калі будуць здабытыя Мінск і Магілёў і надыдуць часы стварэння «польска-беларускай дзяржаўнасці»[12] і г.д.

Большая частка кансерватараў, якія аб'ядналіся вакол газеты «Слова», выступілі з праграмай дзяржаўнай асіміляцыі нацыянальных меншасцяў. Дзяржаўная асіміляцыя павінна была стаць альтэрнатывай праграме этнічнай асіміляцыі, якая была распрацавана польскімі нацыяналістамі.

Так, у дачыненні да беларусаў дзяржаўная асіміляцыя павінна была ўключаць:

— Асіміляцыю жадаючых. Асіміляцыя датычылася пераважна сялян-католікаў Заходняй Беларусі, «штучнаму» узмацненню беларускага руху сярод каторых С. Мацкевіч у сваім праекце Статута Літвы ў 1922 г. прапаноўваў супрацьдзейнічаць[13].
— Прадстаўленне магчымасцей доступу да вышэйшай адукацыі, пры-

[9] H. Korwin-Milewski, *Siedemdziesiąt lat wspomnień (1855-1925)*, Poznań 1930, s. 520-521.

[10] D. Szpoper, *Polskie środowiska zachowawcze byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec podziału jego terytorium po I wojnie światowej*, [w:] *Wyzwolenie czy okupacja? Stosunek społeczności zamieszkujących pogranicze polsko-litewsko-białoruskie do zmieniających się w XX wieku systemów państwowych*, Białystok, 2006, s. 51.

[11] D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa...*, s. 224.

[12] Там жа, с. 233.

[13] S. Mackiewicz, *Statut Litwy Środkowej. O autonomię wileńską*, Wilno 1922, s. 12.

чым дзяржаўная адукацыя павінна быць выключна на дзяржаўнай польскай мове[14], і адміністрацыі.

- Паляпшэнне працы польскай адміністрацыі на беларускіх землях.
- Падтрымку беларускіх антыбальшавіцкіх элементаў.
- Пазітыўныя адносіны да працэсу будаўніцтва нацыянальнай свядомасці беларусаў сярод праваслаўнага насельніцтва Віленшчыны і Заходняй Беларусі[15].

Адным са спосабаў дзяржаўнай асіміляцыі павінна было быць замацаванне Канстытуцыяй сістэмы дэцэнтралізацыі дзяржавы. Перш за ўсе, гэтая сістэма павінна была ажыццяўляцца праз тэрытарыяльнае самакіраванне, якое б ахоплівала нацыянальныя меншасці. Адпаведна яшчэ ў 1922 г. С. Мацкевіч выступіў з праектам аўтаноміі Віленшчыны[16], які змяшчаў асноўныя палітычныя ідэі віленскай кансерватыўнай супольнасці.

У праекце выкладзена тыповае для віленскіх кансерватараў бачанне рэгіянальнай палітыкі і палітыкі самакіравання. «Здольнасць да экспансіі народ здабывае толькі тады, калі стварае ў сабе самім тыпы разнародныя, а не адзін манатонны шаблон (...). Народ, які хоча развіваць, пашыраць і ўзмацняць сваю дзяржаву», павінен стварыць якія-небудзь новыя каштоўнасці, мусіць павялічваць свае прываблівыя рысы (...). Адной з тых характарыстык польскай дзяржаватворчай думкі было тое, што мы сёння назвалі б сістэмай аўтаноміі»[17]. На думку віленскіх кансерватараў Польшча ніколі не была цэнтралізаванай дзяржавай, а хутчэй зборам самастойных рэспублік, гэтыя рысы трэба надаваць і новай польскай дзяржаўнасці[18].

Не падыход нямецкага імперыялізму з яго палітыкай прымусовай этнічнай асіміляцыі, за які ў Польшчы агітуюць прадстаўнікі Нацыянальнай дэмакратыі, а падыход Брытанскай імперыі, што адпавядае традыцыям даўняй Рэчы Паспалітай, з яго дэцэнтралізацыяй і дзяржаўнай асіміляцыяй дазволіць Польшчы, на думку С. Мацкевіча, стаць вялікім народам, а гэта значыць выжыць у акружэнні двух магутных суседзяў. Менавіта таму аўтаномія Віленшчыны для кансерватараў важнейшы этап не проста барацьбы з цэнтралізацыяй, але і барацьбы за існаванне польскай дзяржаўнасці. У далейшым, аўтар прадказвае магчымасць стварэння федэрацыі з Ковенскай Літвой, але праз унію дынастычную і ўзвядзенне на трон агульнага манарха.

[14] Там жа, с.16.

[15] D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa...*, s. 234.

[16] К. Гамулка, *Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў (1918-1922)*, Вільня 2008, с. 186.

[17] S. Mackiewicz, *Statut Litwy Środkowej...*, s. 10-11.

[18] Там жа, с. 12.

З другога боку, як адзначае С. Мацкевіч, само існаванне Польшчы ў час пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, асабліва пасля лістападаўскага паўстання 1830-1831 гг., ёсць вынікам не дзейнасці чыноўнікаў і ўрадаўцаў, але дзейнасці грамадскай. «Дзякуючы грамадскай, прыватнай ініцыятыве і энергіі паўставалі тут бібліятэкі, вышэйшыя навучальныя ўстановы, дабрачынныя ўстановы, шпіталі, ўзмацняліся эканамічныя інстытуты»[19]. Цэнтралізаваны ўрад перапыняе і нішчыць гэтыя вартыя захавання здабыткі.

Яшчэ адной важкай прычынай для дэцэнтралізацыі дзяржавы з'яўляецца псіхалагічны чыннік. У цэнтралізаванай дзяржаве, на думку С. Мацкевіча, існаванне сталіцы вынішчае культурны ўплыў іншых гарадоў. «Можна перанесці Кракаў, Вільню, Львоў, Познань — усе гэтыя гарады да Варшавы. Праз узвышэнне Варшавы гэтыя гарады шмат страцяць, а Варшава атрымае непрапарцыйна мала (...) не магчыма ўціснуць духовае жыццё некалькіх ачагоў культуры, з такой спрадвечнай індывідуальнасцю, як у нашых гарадоў, у адно сумеснае жыццё людскога натоўпу»[20].

Не малаважнай з'яўляецца і неабходнасць забяспечыць рэпрэзентацыю зямель з мяшаным насельніцтвам у агульнадзяржаўным парламенце праз пасярэдніцтва краёвых соймаў. У дадзеным выпадку С. Мацкевіч пагаджаецца з нацыянальным дэмакратам праф. Станіславам Гломбінскім[21]. Падобную думку раней выказваў і А. Мейштовіч. Сама станоўчая ідэя карэкціроўкі якасці дэпутацкага корпусу праз ускосныя выбары, краёвыя соймы, становіцца на яго думку вельмі актуальнай у мясцовасцях са змешаным этнічным складам насельніцтва, асабліва ў параўнанні з ідэяй прамых выбараў і наплыву ў агульнадзяржаўны Сейм вялікай колькасці няпольскіх дэпутатаў[22].

Праект Статута прадугледжваў яго зацвярджэнне Сеймам Рэчы Паспалітай, які адзіны можа ўносіць у яго змены. Дадзенае палажэнне падкрэслівае адрозненне Віленшчыны ад Сілезіі, дзе Статут, як вынік рэферэндуму, меў рысы міжнароднай дамовы. У сваіх каментарах С. Мацкевіч, улічваючы страх грамадзянаў Сярэдняй Літвы застацца безабароннымі перад пагрозамі з Савецкай Расіі і Ковенскай Літвы, неаднаразова падкрэслівае, што Віленшчына атрымлівае толькі статус аўтаноміі і з'яўляецца інтэгральнай часткай Польшчы. Аўтаномія, паводле аўтара пра-

[19] Там жа, с. 9.

[20] Там жа, с. 10.

[21] Там жа, с. 8.

[22] D. Szpoper, *Polskie środowiska zachowawcze byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec podziału jego terytorium po I wojnie światowej*, [w:] *Wyzwolenie czy okupacja? Stosunek społeczności zamieszkujących pogranicze polsko-litewsko-białoruskie do zmieniających się w XX wieku systemów państwowych*, Białystok, 2006, s. 49.

екта, «не мае ні адзінага права, якое рабіла б яе падобнай на пабудову дзяржавы з абмежаваным суверэнітэтам, не мае ніводнага прывілею на моцы ўласнага права, усе паўнамоцтвы аўтаноміі залежаць толькі ад загадаў выдадзеных у сталіцы Польшчы»[23]. Дзяржаўнымі законамі вызначаюцца яе межы, прэзідэнт Рэчы Паспалітай прызначае вышэйшую службовую асобу Сярэдняй Літвы — літоўскага старасту, у выпадку вайны можа прыпыніць дзейнасць Статута, агульнадзяржаўны Сейм па звароце старасты можа адмяніць любы закон краёвага парламента — Земскага Кола, высунуць абвінавачанне ў дачыненні да старасты і членаў Урадавай камісіі і інш. Такім чынам, «аўтаномія не зможа ніякім чынам супраціўляцца патрабаванням агульнадзяржаўнай палітыкі»[24].

У кампетэнцыю аўтаноміі, паводле С. Мацкевіча, павінны ўваходзіць пытанні культуры, мовы, адукацыі, веравызнанняў, сацыяльнага забеспячэння і грамадскай апекі, зямельнай і сельскагаспадарчай палітыкі, паліцыі (але не жандармерыі), краёвых фінансаў і эканомікі, мясцовых падаткаў, мясцовага самакіравання і інш.[25] Ён дадаткова адзначае, што заканадаўства аб мясцовым самакіраванні з'яўляецца выключным правам аўтаноміі, што толькі такім чынам можна ўлічыць мясцовыя асаблівасці, выразна адрозныя ад вялікапольскіх ці познаньскіх.

Шмат увагі ў Статуце звяртаецца на пабудову ўладных інстытутаў аўтаноміі. У каментарах да Статута С. Мацкевіч адзначае вышэйшасць манархічнай улады над рэспубліканскай. Ён выказвае спадзяванне на ўстанаўленне ў будучыні манархіі, якая звязвае сучаснікаў з мінулымі і будучымі пакаленнямі народа. «Рэч паспалітая», якую ён разумее як «агульнае дабро» ўсіх грамадзянаў, якая ёсць чымсьці, «што існуе не па-над грамадзянамі, але ў іх саміх і для іх саміх, згодна з іх воляй і іх працай»[26], не супярэчыць дынастычнай уладзе. Аўтар праекта Статута выказвае і традыцыйны для манархістаў погляд на манарха як асобу надпартыйную, якая можа аб'яднаць увесь народ, сімвалізуе ўвесь народ, выклікае ў апошняга павагу і давер да дзяржаўнага апарату.

Ва ўмовах тагачаснай Польшчы ў праекце Статута моцную ўладу сімвалізуе пасада літоўскага старасты, які прызначаецца прэзідэнтам Рэчы Паспалітай па прапанове старшыні Савета Міністраў, які прызначае і адхіляе ад улады старшыню Урадавай камісіі Сярэдняй Літвы і па яго прапанове яе членаў.

Даволі шмат С. Мацкевіч разважае аб неабходнасці стварэння двухпалатнага краёвага парламента. Нягледзячы на яго спробы давесці сва-

[23] S. Mackiewicz, *Statut Litwy Środkowej*..., s. 28.
[24] Там жа, с. 28.
[25] Там жа, с. 41-43.
[26] Там жа, с. 39.

ім апанентам, што двухпалатнасць аўтаматычна не выклікае кансерватыўнасці вышэйшай палаты, самі прапановы аўтара праекта па фармаванню і кампетэнцыі палат сведчаць пра традыцыйны для еўрапейскіх кансерватараў погляд пра неабходнасць стабілізуючай ролі вышэйшай палаты. Так, ён адзначае нізкі ўзровень культуры дэпутатаў, які пры наяўнасці ўсеагульных выбараў абавязкова прывядзе да неэфектыўнасці краёвага парламента, да прыняцця шматлікіх «папяровых» законаў. Таму толькі змяншэнне «да мінімуму» колькасці дэпутатаў парламента і яго двухпалатнасць з'яўляюцца, на яго думку, адзіным гарантам інтэнсіўнай і сацыяльнакарыснай працы заканадаўчай улады Сярэдняй Літвы. Кансерватыўнасць другой палаты павінна была забяспечвацца парадкам яе фармавання: палова дэпутатаў будзе абірацца ніжэйшай — Ізбай дэпутатаў, а астатнія — прадстаўнікамі мясцовага камунальнага самакіравання, а таксама яе роўнымі правамі з ніжняй палатай (праўда, Урадавая камісія будзе адказнай толькі перад Ізбай дэпутатаў, а не перад абедзвюма палатамі). Апошняе палажэнне, на думку С. Мацкевіча, не дазволіць Стражы Земскай ператварыцца ў збор малаздольных і малазначных палітыкаў, як гэта склалася ў тагачаснай Польшчы. Такім чынам, цешыцца аўтар, неабходнасць пошуку кампрамісу паміж палатамі не дазволіць прымаць законы, абапіраючыся толькі на пераменлівыя настроі грамадства[27].

Аднак ні абраныя ў Сейм Сярэдняй Літвы дэпутаты, ні ўлады Польшчы не паставіліся станоўча да праекта. У варунках змагання з Ковенскай Літвой перамагло жаданне інкарпараваць Віленшчыну ў склад Польшчы на правах ваяводства.

Пасля майскага перавароту 1926 г. з кругоў групы аб'яднанай вакол газеты «Слова» паходзіў яшчэ адзін прапанаваны Ю. Пілсудскаму і апублікаваны Уладыславам Студніцкім праект «дэцэнтралізаванай канстытуцыі». Дзяржава, паводле праекта, павінна была быць падзелена на сем краёў (у тым ліку Паўночна-Усходні край з трох ваяводстваў — Віленскага, Наваградскага і Беластоцкага), кожны з асобным краёвым статутам, краёвым сеймам, кіраўніком краю і ўрадам краю. Адзінства краіны павінна была гарантаваць дзяржаўная польская мова (дапускалася пры наяўнасці адпаведнага палажэння ў краёвым статуце і выкарыстанне лакальнай мовы), наяўнасць права вольнай змены жыхарства, вольнага набыцця прыватнай уласнасці і доступу да дзяржаўных пасадаў ва ўсіх частках краіны, а таксама права санкцыянавання законаў паасобных краёвых сеймаў кіраўніком дзяржавы[28]. Маршал Ю. Піл-

[27] Там жа, с. 34-35.

[28] A. Danek, *Wartość prowincji*, [w:] *Organizacja Monarchistów Polskich* [Электронны рэсурс]. — 2011. — Рэжым доступу: http://www.legitymizm.org/wartosc-prowincji. — Дата доступу: 19.01.2011.

судскі праігнараваў праект. Паводле гістарычнага анекдота, на пытанне аб праекце ён жартаўліва адказаў: «Студніцкі прапануе мне сем сеймаў, у той час як мы зараз з адным не можам справіцца»[29].

Пасля смерці Ю. Пілсудскага, пераходу правячай эліты на нацыяналістычныя пазіцыі, ідэі татальнасці і цэнтралізму, віленскія кансерватары пераходзяць у апазіцыю да ўрада. С. Мацкевіча за «сістэматычную крытыку ўрада з дапамогай штучна падабраных аргументаў, і падрыў даверу народа да Правадыра»[30] арыштавалі і пасадзілі ў вязніцу ў Бярозе-Картузскай, але праз два месяцы вызвалілі з-за пратэстаў грамадскасці. Пасля верасня 1939 г. асяродак віленскіх кансерватараў перастаў існаваць, так і не здолеўшы дамагчыся за некалькі дзесяцігоддзяў існавання ажыццяўлення сваіх ідэяў.

**Dzmitryj Szczerbik** — doktor nauk prawnych, starszy wykładowca w Katedrze Teorii i Historii Państwa i Prawa Uniwersytetu Państwowego w Połocku. Zainteresowania badawcze: historia badań politycznych i prawnych.

[29] Там жа.
[30] D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa...*, s. 318.